*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 32(366)** **19 ЖНІЎНЯ 1998 г.**

**АДАМУ МІЦКЕВІЧУ ДА 200 - ГОДДЗЯ**

**Шмат карысці было б для палякаў**
**з кучаравай Тваёй галавы,**
**каб Цябе не завязнілі ў Кракаў,**
**каб дадому вярнуўся жывы?**

**Мо знайшліся б і нам з Табою літасць**
**на пясчаным тым Свіцязі дне,**
**каб стагоддзі, як словы, паблытаць, —**
**мо даплыў бы Паэт да мяне?**

**Каб Паэты не йшлі на паўстанні,**
**а Святымі праходзілі ў Рай, —**
**то палякі на Крэсах, як здані,**
**правaліліся ў чорны раздрай.**

**Данута Бічэль-Загнетава**
**14.07.98г.**

# Яшчэ 12 дзён

Яшчэ 12 дзён бітвы за Беларускі гуманітарны ліцэй і 1-га верасня мусіць быць пастаўлена нейкая кропка. Або - або...










# Суд над мяккім знакам

12 жніўня вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь судзіў самую няшчасную літару беларускага алфавіту Ь (мяккі знак) і газету "Наша Ніва", якая карыстаецца звыш меры гэтай антысавецкай літарай.

А калі крыху больш сур'ёзна, то суддзя Ірына Петухова разглядала зыск рэдактара газеты "Наша Ніва" Сяргея Дубаўца да Дзяржкамдруку, які вынес папярэджанне "Нашай Ніве" за тое, што тая карыстаецца "тарашкевіцай", правапісам, які найбольш поўна адпавядае асноўнаму беларускаму правілу: "Як чуецца, так і пішацца".

Суддзя не ўзялася разбіраць заломы лінгвістыкі і пастанавіла арганізаваць незалежную экспертызу. Пакуль прызначаць тых экспертаў "Наша слова" прапануе чытачам заяву доктара гістарычных навук Леаніда Лыча па гэтым пытанні

### ЗАЯВА ДЛЯ СУДА

Фармаванне беларускай мовы адбывалася ў вельмі складаных варунках больш за стагоддзе. Гэты працэс працягваецца і сёння. Самая вялікая заслуга тут належала рэдакцыі газеты "Наша Ніва", што выдавалася ў 1906 - 1915 і ў 1921 гг. На яе аснове Браніславам Тарашкевічам была ўкладзеная "Беларуская граматыка для школ", якая служыла асноўным падручнікам беларускай мовы ў вельмі плённы для яе перыяд міжваеннай беларусізацыі.

У 1926 г. у Менску адбылася Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу з удзелам усіх вядучых вучоных Беларусі і шматлікіх замежных навукоўцаў. Мовазнаўцы выступалі за пераемнасць традыцыі Тарашкевіча, за захаванне на пісьме паказу найбольш характэрных асаблівасцяў беларускага вымаўлення, у прыватнасці, мяккасці свісцяшчых зычных перад наступнымі мяккімі. На Акадэмічнай канферэнцыі была створана Правапісная камісія ў складзе самых вядомых на той час мовазнаўцаў і літаратараў С.Некрашэвіча (старшыня), Я.Лёсіка, В.Ластоўскага, Я. Купалы, Я.Коласа і інш. У пачатку 1930 г. яна выдала праект "Беларускага правапісу", які ўсе добрыя знаўцы беларускай мовы лічылі буйным крокам наперад.

Але на жаль, у 30-я гады ў моватворчы працэс ўмяшаліся далёкія ад філалогіі палітыкі. Ідэалагічныя службы ЦК КП (б)Б і паслухмяныя ім рэпрэсіўныя органы. Яны пачалі барацьбу з надуманымі імі беларускімі "нацдэмамі", і аднымі з першых былі рэпрэсаваныя члены згаданай Правапіснай камісіі. Праект правапісу таксама быў аб'яўлены "нацдэмаўскім". Працу над складаннем правапісу беларускай мовы пачалі наноў, з мэтавай устаноўкай як мага бліжэй наблізіць яе да расейскай мовы. У жніўні 1933 г. Саветам Народных Камісараў была зацверджаная пастанова "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу", палітычная паводле сваёй сутнасці, якая не мела нічога агульнага з папярэднімі акадэмічнымі праектамі і насуперак меркаванню беларускіх мовазнаўцаў, сфармуляванаму на Акадэмічнай канферэнцыі, штучна набліжала беларускія правапіс і граматыку да расейскіх.

Не засталіся абыякавымі да адвольнай пераробкі правапісу беларускай мовы многія настаўнікі, асабліва філолагі. Яны добра разумелі, што рэформа нікольki не палегчыла школьнікам засваенне беларускай мовы, затое шкодна адбілася на яе спецыфіцы ў параўнанні з мовай расейскай. Яшчэ ў 1935 годзе ў "Матэрыялах к дакладу Ўрада БССР XI з'езду Саветаў" адпаведныя органы інфармаваліся, што ў рэспубліцы ёсць выпадкі "супраціўлення з боку настаўнікаў увядзенню беларускага правапіса".

Падаць голас у абарону нескажонай беларускай мовы азначала выступіць супраць бальшавіцкай палітыкі "збліжэння і зліцця", а па сутнасці — знішчэння нацыяў, народнасцяў і іхніх моваў. Зразумела, што ў час сталінскіх масавых рэпрэсіяў такія пратэсты канчаліся беззаконнымі прысудамі. Не дазволілі парушыць характво нескажонай беларускай мовы толькі беларусы Заходняй Беларусі і наогул па-за межамі БССР: яны не прызналі рэформы 1933 года.

З дэмакратызацыяй жыцця ў рэспубліцы ў канцы 80-х гадоў інтэлігенцыя ўсё больш настойліва патрабавала ад уладаў сур'ёзных захадаў дзеля выратавання беларускай мовы. На поўны голас сталі выказвацца думкі аб неабходнасці вярнуцца да нескажонага правапісу. Гэтым правапісам пачалі выходзіць многія недзяржаўныя, а потым і некаторыя дзяржаўныя выданні. За вяртанне да правапісу Тарашкевіча выказалася большасць выступоўцаў на акадэмічнай канферэнцыі ў лістападзе 1992 г.

З першых дзён існавання традыцыйны правапіс прыняла адноўленая ў 1991 годзе "Наша Ніва". Іначай і быць не магло, бо яна лічыць сябе пераемніцай той "Нашай Нівы" пачатку стагоддзя, якая адыграла вырашальную ролю ў нацыянальна-культурным Адраджэнні беларускага народа. Газета арганічна не магла прыняць штучны русіфікаваны сталінскі правапіс узору 1933 года, яна працягвае карыстацца мовай Купалы. Цяперашняя "Наша Ніва", як і яе папярэдніца, стала сапраўднай лабараторыяй развіцця і ўдасканалення беларускай мовы, ачышчэння яе ад усяго наноснага, арганічна неўласцівага.

Існаванне перыядычных выданняў накшталт "Нашай Нівы", якая не кіруецца наркамаўскім правапісам, цалкам абгрунтаванае і адпавядае духу беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. У падобныя перыяды ў многіх літаратурных мовах функцыянуе некалькі правапісаў, і толькі час дазваляе выбраць аптымальны.

Недарэчна выглядаюць абвінавачванні газеты ў тым, нібыта яна ўносіць блытаніну ў моўную практыку. Як вядома, "Нашу Ніву" чытаюць высокаадукаваныя прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі, якія выдатна валодаюць беларускай літаратурнай мовай у яе абодвух варыянтах.

Зразумела, забараніць выданне гэтай газеты можна з любой прычыны. Гэта лёгка могуць учыніць людзі, недасведчаныя ў тым, што давялося перажыць нашай мове за апошнія сто гадоў. Але ніхто не ў стане спыніць тую самаахвярную працу дзеля ўзбагачэння нашай мовы, якую вядуць супрацоўнікі "Нашай Нівы" на старонках газеты. Гэтая праца, як паказвае гісторыя, будзе працягвацца нягледзячы ні на што. Таму я прасіў бы шаноўны суд не браць на сябе ганебную ролю і не дапусціць расправы над унікальнай культурнай з'явай, імя якой — "Наша Ніва".

Доктар гістарчных навук, прафесар
Леанід Лыч.

***Добры дзень паважаная рэдакцыя і мая любімая газета "Наша Слова".***

Буду вам вельмі ўдзячны, калі вы надрукуеце мае артыкулы і калі захочаце азнаёміце чытачоў з маім лістом.

Адразу пра сябе: мне 19 год, студэнт Б.У.К.а, Вітаўт Пазьнякевіч. Даўно сачу за дзейнасцю ТБМ, і хачу прапанаваць азнаёміцца з дзейнасцю нацыянальна-свядомай моладзі ў Менску, падумаць аб супрацоўніцтве.

Я, разам, са сваімі сябрамі - аднадумцамі ствараю суполку "Беларуская Музычная Альтарнатыва". Галоўная наша мэта — праз беларускую музычную культуру абуджаць у людзей нацыянальную свядомасць, прапагандаваць дэмакратычныя ідэі. Пачалі мы сваю дзейнасць з 1996 г. За гэты час правялі шмат канцэртаў беларускіх гуртоў, бардаў, як у Менску, так і ў іншых гарадах, стварылі сістэму распаўсюджвання запісаў беларускіх касет, выдалі зборнік тэкстаў з акордамі гурта "Камелот" (на чарзе

РЭХА

NRM", "Уліс", "Крама", "Новае Неба" і інш.). На жаль на правінцыі людзі забываюць аб такой дзейнасці. Мітынгі, шэсці, пікеты, — гэта безумоўна вельмі трэба, але не трэба забывацца і на культуру. У рэгіёнах амаль не праводзяцца канцэрты, хаця можна, што ў нас было, спрабаваць шукаць фінансавую падтрымку у мясцовых арганізацыях, фірмах, ўладных структурах, нельга набыць хоць якую беларускую касету. Ніхто за нас нічога рабіць не будзе. Таму калі хто-небудзь, як у Менску, так і з любога іншага горада, або якой беларускай суполкі за межамі краіны зацікавіцца супрацоўніцтвам па вышэй пералічанай дзейнасці, будзем вельмі чакаць.

***Пісаць можна: 220085. Менск а/с 5. т.(017) 2490888, Вітаўт.***

# Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

А мова народа — катэгорыя даўгавечная, наколькі даўгавечны сам народ. Яна не з нас пачалася і не на нас кончыцца. Не разумець гэтага людзі вучоныя не могуць. Як не могуць разумець і таго, якоя магутная стваральная сіла закладзена ў самім феноменe нацыянальнай мовы.

**Ніл Гілевіч**
**Народная воля 22.07.98г.**

*І сапраўды, беларускае слова ў беларускай дзяржаве пакладзена гвалтоўнай сілай на смяротную плаху. Яно топчацца, ганьбуецца рознымі, нават непрыстойнымі прыёмамі, выцесняецца, знішчаецца. Вярхоўныя ўлады Беларусі робяць усё магчымае, каб беларуская мова стала зусім непатрэбнай і знікла на заўжды.*

***Аляксей Саламонаў***
***Народная воля 22.07.98г.***

Несавецкі правапіс, падабаецца камусьці або не, павінен ужывацца, а не быць мёртвым грузам дзесьці ў архівах інстытута мовазнаўства.

**А.Бандарэнка**
**"Наша ніва" № 14**

*І таму ўсьведамленне сябе асобнай цэлай нацыяй разбурае імперскую ідэю. У аснове гэтага працэсу ляжыць мова. Імперцы выдатна ведаюць, што нацыя без мовы — гэта не нацыя.*

***Васіль Быкаў***
***"Наша ніва" № 14***

Змест навучання ў Беларускім гуманітарным ліцэі абуджае ў падсвядомасці навучэнцаў беларускую духоўнасць, што не стасуецца з абсурднай дзяржаўнай палітыкай русіфікацыі нашай школы.

**В. Скараход,**
**Народная воля. 5.08.98**

"... Каб не ўмёрлі ..."

## За шоламам віцязя ля прахадной яшчэ цепліцца "агменьчык" беларушчыны. Ці надоўга ?

На так званым "хітрым" кірмашы ў цэнтры Слуцка, дзе бойкія маладзіцы гандлююць імпартнымі таварамі, здарылася нечаканае для мяне — пачуў беларускае слова з вуснаў маладой, акуратна апранутай жанчыны гадоў пад трыццаць. Яна размаўляла з прадаўшчыцай. Паверце — не ўтрымаўся, зрабіў ёй камплімент, бо пачуць сёння на вуліцах, у аўтобусах, магазінах горада роднае слова практычна немагчыма — быццам жывеш не ў цэнтры Беларусі, а дзе-небудзь у Рыа-дэ-Жанейра, аб якім калісці марыў Астап Бэндар. Спытаў у той жанчыны дзе яна працуе. Адказала, што ў дзіцячым садку-яслях выхавацелькай. І адрас дала: "Насупраць бальнічнага комплекса, пры ўваходзе стаіць шэры шолам — як прахадная".

Той пакрыты ацынкаваным жалезам шолам вышынёй метраў пяць я адшукаў хутка — насупраць яго якраз аўтобусны прыпынак. Прайшоў у цяністы двор, дзе гуляла малышня. Здзівілі адразу расклееныя на ўваходных дзвярах у будынак садка-ясляў аб'явы — ўсе да адной расейскамоўныя. Загадчыцы на месцы не было, мяне сустрэла старшая выхавацелька Валянціна Іванаўна Шапурка. Правяла ў метадчыны кабінет. На мае пытанні, я задаваў па-беларуску, яна адказвала на расейскай мове. Прызналася шчыра: "Могу, если нужно, разговаривать с детьми, воспитательницами и по-белорусску, но обычно пользуюсь русским. Привыкла, са школьной скамьи. Ведь училась в русской школе — как и все дети в городе".

І выхавацелькі, зазначыла яна, паміж сабою размаўляюць на звыклай "трасянцы", рэдка хто з іх больш-менш дасканала авалодаў матчынай мовай, таму як усе яны таксама у свой час наведвалі расейскамоўныя школы. А між тым тры гады таму усе дзесяць груп, а гэта 180 дзяцей, лічыліся беларускамоўнымі. З часоў кароткай "адлігі", калі дзяржаўнай мовай была адна — родная. Ужо ўся дакументацыя, планы выхаваўчай работы ў садку вяліся на ёй. Ды і выхавацелькі стараліся з дзецьмі па-беларуску — у гульнях, забавах, на святках. Дачка Валянціны Іванаўны тады таксама наведвала садок і хутка авалодала роднай мовай, шмат вершаў вывучала на ёй. У першы клас маці адвяла яе ў беларускамоўны клас. І ў другім усё было ў норме. А пасля моўнага рэферэндуму настаўнікі сталі дамагацца, каб дзеці займаліся толькі на расейскай мове. Некаторыя бацькі упарціліся, нават ліст дырэктару школы № 1 накіравалі. Але большасць бацькоў, як і настаўнікаў, не падтрымалі іх высілкаў — як і ў іншых школах горада. Ганебны працэс, як кажуць, пайшоў!

Сёлета з садка № 13 выпусцілі дзве старэйшыя беларускамоўныя групы — 50 дзяцкей. Яны, як заўважыла Валянціна Іванаўна, увогуле нядрэнна засвоілі родную мову. А вось пойдуць восенню ў школы расейскамоўныя — тую ж 1-ю і новую — 13-ю, таму як да іх "прыпісаны" садок № 13. Там ужо летась не было ніводнага першага беларускамоўнага класа.

Праз некалькі хвілін прыйшла загадчыца садка Тамара Уладзіміраўна Жлуктэнка — яна адлучалася ў гарадскі аддзел адукацыі. Працуе тут дваццаць шэсць гадоў. Разам з ёю мы абыйшлі ўсе паверхі, зазірнулі ў чысценькія, утульныя пакоі, гульнявыя класы. Парадавала беларускамоўная тапаніміка на дзвярах, сценах. І кніжак беларускамоўных тут няшмала — бадай кожная другая. Для ўсіх узроставых груп. Гэта тое, што завезлі ў часы, калі нацыянальна-адраджэнскія ідэі дайшлі і сюды. Нажаль, не надоўга. Пасля сумнавядомага рэферэндуму 1995 года "агменьчык" беларушчыны, што набіраў моцы, стаў паступова затухаць. Я пачуў ад Тамары Уладзіміраўны нечаканае прызнанне: "Будем работать с детьми на том языке, на каком пожелают родители — как и в школах". Яна і са мною гаварыла па-расейску: у дзяцінстве яе, дачку савецкага афіцэра, вызвалілі ад вывучэння беларускай мовы — як і сотні іншых дзяцей вайскоўцаў. Нямецкую, англійскую яны зубрылі, а мову карэннага насельніцтва ігнаравалі са згоды ўладаў! Недзе ўжо ў дзевятым класе яна стала вывучаць беларускую літаратуру, але гэтага было так мала, каб авалодаць мовай дасканала. "Тем не менее могу свободно читать и более-менее грамотно разговаривать по-белорусску", — зазначыла Тамара Уладзіміраўна. Пры яе "патранажы" часы "застою" у адной з груп на працягу гадоў дванаццаці дзве выхавацелькі — Антаніна Мірашнічэнка (зараз на пенсіі, не працуе) і Антаніна Зубарык — вялі заняткі з дзецьмі выключна на беларускай мове. Мірашнічэнка сама добра размаўляе на ёй, пісала вершы нават. Пасля яе выхаду на адпачынак Зубарык перавялі ў групу дзетак, хворых на цэрабральны параліч. Яна вядзе там заняткі толькі па-расейску: лічыць, што яе выхаванцам хоць бы адну мову засвоіць, некаторыя хлопчыкі ў чатырохгадовым узросце яшчэ не размаўляюць нават.

Ва ўмовах паўсюднага наступства асіміляцыі не проста працаваць сёння і ў садку. Праўда, выхавацелькі па-ранейшаму карыстаюцца ў сваёй рабоце праграмай "Пралеска", якая выйшла ў свет яшчэ да рэферэндуму і дзе ёсць шмат чаго карыснага, каб дзеці засвоілі родную мову, палюбілі яе мілагучнасць і напеўнасць. Праўда, не спісана ў архіў і кніжка "Почитаем вместе", выдадзеная ў 1984 годзе. У ёй з беларускіх пісьменнікаў вельмі сціпла прадстаўлены трое — Сяргей Грахоўскі, Васіль Хомчанка і Агнія Барто. Асноўная ж маса казак, апавяданняў, вершаў, баек — расейскамоўныя, у іх нават сустрэнем радкі з ухвалою "доброго дедушки Ленина". Мне заўважылі, што гэтым падручнікам не карыстаюцца. Магчыма. Але няма гарантыі, што тая ці іншая выхавацелька не пойдзе з ім у групу на заняткі.

Чамусці нікога тут не здзіўляе, што стэнд са слушнымі парадамі, настаўленнямі для бацькоў, цалкам расейскамоўны. Спасылка на тое, быццам дошку завезлі з Бабруйска некалькі гадоў таму — не апраўданне пазіцыі гэткага падыгрывання пад светапогляд многіх сёняшніх бацькоў, чужых да нацыянальнай ідэі.

На развітанне Тамара Уладзіміраўна запэўніла мяне, што дзве групы сёлета яны ўсё ж набяруць цалкам беларускамоўнымі — жадаючыя сярод бацькоў ёсць. Але ж у астатніх васьмі дзеткам будуць чытаць казкі, вершы па-беларуску, а размаўляць з імі па-расейску ці на той жа "трасянцы". Але калі б нават ва ўсіх дзесяці групах зноў на поўны голас загучэла роднае слова, а дома дзеці з бацькамі па-ранейшаму будуць размаўляць па-расейску, карысці ад такога двайнога моўнага сумбуру мала — болей шкоды. Пакуль у краіне беспакарана ідзе, набірае сілы расейскамоўная асіміляцыя, а чыноўнікі ўсіх рангаў знізу да самых вышэйшых "вертыкаляў" не думаюць нават вывучаць беларускую мову, пакуль ВНУ, тэхнікумы, ПТВ, большасць сярэдніх школ у гарадах застаюцца расейскамоўнымі, за шоламам-прахадной садка-ясляў № 13 і іншых дашкольных установ Слуцка "агменьчык" беларушчыны не разгарыцца зыркім полымем любові да роднага слова.

*Міхась Тычына, г.Слуцк*

# Дапаможам роднай мове !

"Чым то дзеіцца на свеце, што не роўна дзеле Бог?", — так і хочацца паўтарыць услед за Францішкам Багушэвічам, калі падумаеш пра лёс моваў двух "братэрскіх" народаў — Расеі і Беларусі. Адна з іх квітнее, усюды пануе, на працягу стагоддзяў яе ўслаўляюць усе ад Ламаносава ды Тургенева — і да беларускага прэзідэнта Лукашэнкі, выдатныя пісьменнікі і паэты ствараюць на ёй свае шэдэўры, праслаўляючы яе яшчэ болей, ведаюць яе не толькі насельнікі 1/6 часткі ўсёй зямной сушы, але і значна большыя тэрыторыі ... Для яе захавання і развіцця створаны нават спецыяльны дзяржаўны камітэт, які фінансуецца з бюджэту, радыё і тэлебачанне прысвячаюць свае перадачы яе прапагандзе і захаванню яе чысціні ... Усяго і не пералічыш. Другая ж мова - сястра — нібыта тая бедная Папялушка, якую ўсе б'юць, крыўдзяць, прыніжаюць. З усіх бакоў зведала яна ўціск, забароны, наступ на свае правы, нават замахі на сваё жыццё. Асабліва шмат стараўся ў гэтых адносінах славуты братні народ, які выцясняў яе, выганяў з роднага дому, прыцясняў і нішчыў, замест таго, каб па-братэрску ёй дапамагчы. У савецкай імперыі да таго даходзіла, што, каб ужо і гуку на ёй не было, дык саміх яе носьбітаў вынішчаць даўмеліся, бо, як вядома, няма чалавека — няма і праблемаў ніякіх з гэтаю мовай. Дзіўна, як яна яшчэ дыхае ... А цяпер вось яе, хворую, ледзь жывую, ўзяліся дабіваць свае родныя беларускія улады, ды яшчэ з такім імпэтам ! Сапраўды, вартым лепшага прымянення. Калі б стольки энергіі ды актыўнасці ўкладалася ў запуск заводаў ці ў забяспечанне пенсіянераў тэлевізарамі, то ўжо сёння мы спазналі б сапраўднае працвітанне і дабрабыт.

Выйшлі б ужо ў шэрагі самых перадавых краінаў свету!

Кожны дзень прыносіць навіны ў вобласці выкаранення рэштак мовы адусюль, дзе яны яшчэ нейкім цудам захаваліся. То вось яшчэ школы беларускія ці класы зачыняюцца (садкі даўно ўжо прыкончылі), то падручнікі ў дзяцей адбіраюцца ды знішчаюцца, то кніжкі беларускія з выдавецкіх планаў выкідаюцца, то шыльды беларускія расейскамоўнымі замяняюцца, то ад чыноўнікаў забароны на ўжыванне мовы паступаюць, то Таварыства беларускай мовы са свайго памяшкання выкідаецца за пяздольнасць разлічыцца па фантастычных сумах арэнднай платы, то над газетай "Наша Ніва" навісае пагроза забароны за тое, што не па-савецку піша, то адзіны ў краіне цалкам беларускі гуманітарны ліцэй зноў пад пагрозай, і дзеці другія свае канікулы прастойваюць у пікетах, баронячы яго ад нападкаў, то зноў мове-суседцы афіцыйна надаюцца ўсе законныя правы ў нашым доме, хаця яна і без таго заўжды паводзіла сябе тут як адзіная паўнапраўная гаспадыня.

Навінаў гэтых стольки, што цяжка і пералічыць. Што ўжо тут казаць, — калі выкараненнем сваёй мовы занялася сама дзяржава, то плён забяспечаны! Яна ж для гэтага мае ўсе магчымасці (гэтак жа, як, дарэчы, і для яе выратавання). Праўда, дзеянні нашых беларускіх ўладаў у гэтым накірунку не паддаюцца разумнаму тлумачэнню. Немагчыма зразумець, як можна з такой лютасцю, з такім імпэтам сячы сук, на якім сядзіш? Асабліва, калі ацэньваць дзеянні дзяржавы з пункту гледжання нацыянальных інтарэсаў, бо фактычна вядзецца вайна супраць мовы народа, якая ў любой краіне з'яўляецца найважнейшым фактарам аб'яднання нацыі і ўмацавання самой гэтай дзяржавы.

Ну, дык што ж, на вайне як на вайне. Паколькі мы, грамадзяне Беларусі, не можам дапусціць знішчэння нашай мовы, паколькі ўсе мы нясем за яе адказнасць, то павінны змагацца за яе ўсімі магчымымі сродкамі, не палохаючыся няроўнасці сіл, бо на нашым баку праўда і справядлівасць, за намі будучыня. Што могуць і што павінны рабіць людзі ў такой сітуацыі, як наша ?

Прапаную адкрыць у нашай газеце рубрыку "Дапаможам роднай мове", у якую можна было б дасылаць свае прапановы, цікавыя ідэі, знаходкі, прыдумкі, арыгінальныя меркаванні па выратаванні мовы, дзяліцца досведам, які ўжо прынёс пэўны плён. Такім чынам мы маглі б стварыць своеасаблівую скарбонку ідэяў і досведу захавання, умацавання і пашырэння роднай мовы, дапамогі ёй у цяжкі час.

*Святлана Багданкевіч, г. Менск*

## Пагарцаваў па свеце "Рыцар Свабоды".

Як я разумею, не ўсе ў нас людзі ведаюць або здагадваюцца, што ёсць такія словы, як "рыцар", "свабода", і што яны нясуць у сабе. Возьмем, да прыкладу, першае. Яно мае шмат вызначэнняў, у наш жа час так найболей гавораць пра бескарыслівага, самаадданага, высакароднага чалавека. З старанямецкай мовы рыцар перакладаецца як узброены коннік.

А пра свабоду, як мне здаецца, немагчыма напісаць, бо колькі ёсць Беларусь гэтае слова ёсць terra incoqnita — ("невядомая зямля") — незразумелае, невядомае, недасягаемае,трывожна-хвалюючае ...

Дык вось, каб абудзіць людзей у горадзе Баранавічы і раёне, і каб кожны з іх адчуў сябе рыцарам свабоды, і з'явілася новае выданне "Рыцар свабоды" — баранавіцкі грамадскі культурна-асветны бюлетэнь. Якраз напрыканцы ліпеня і "пагарцаваў" па свеце гэты "друкаваны коннік".

На першай старонцы, дзе ёсць герб "Пагоня", зварот "Да чытача", верш "Перад Будучыняй" Янкі Купалы, пачатак нататкаў са здымкам пра звязь беларускіх рыцараў у Баранавічах (працяг на 2 стар.).

На 2 і 3 старонках матэрыялы пра "Рыцарскае свята" З.Малочкі, "Кошты на некаторыя прадукты харчавання ў Баранавічах", дзе мы бачым, што ў дзяржаўных крамах цэны значна вышэй, чым у гандляроў без даху, верш "Рыцар" У.Гуткоўскага (Ён жа — Гетман Найвышэйшы Беларускага рыцарскага клубу), нататка "Угодкі перамогі" пра незабыўную бітву пад Мілавідамі. А далей на іншых старонках ідуць вельмі цікавыя і павучальныя матэрыялы на розныя тэмы Ў. Гундара, А.Бакача, М.Андрэева, А.Хоміча, ёсць у газеце міні-віктарына, анекдоты і загадкі, крыжаванка.

Рэдактарам "Рыцара свабоды" з'яўляецца Ўладзімір Гундар, бюлетэнь выдаецца толькі на беларускай мове. Некалькі слоў пра гэтага чалавека, які вельмі апантаны сапраўднай беларускай ідэяй. Нарадзіўся Ў.Гундар 28 траўня 1960 года, вучыўся ў Палонкаўскай сярэдняй школе, вучылішчы № 5 г. Слоніма, як і ўсе служыў у войску — на тэрміновай і звыштэрміновай службах, працаваў на авіязаводзе. З 1990 года — інвалід II групы. Зараз з'яўляецца старшынёй Баранавіцкай грэка-каталіцкай парафіі святых роўнаапостальных Кірылы і Мятода.

*Міхась Маліноўскі, правадзейны член Геаграфічнага таварыства, г.Баранавічы.*



# Сучаснікі Міцкевіча з нашага рэгіёна

У літаратурным, грамадска-культурным, палітычным і асветніцкім жыцці Віленскага краю, Меншчыны і эміграцыі ў першай палове 19 ст., калі расцвітаў талент вялікага А.Міцкевіча, прымалі актыўны ўдзел прадстаўнікі разгалінаванага шляхецкага роду Ходзькаў. Паходзілі яны са старадаўняга мястэчка Крывічы Мядзельскага раёна. Ходзькі ад прыроды былі людзі здольныя, як пісаў іх сучаснік мемуарыст С. Мараўскі: "Грэх сказаць, што калі-небудзь быў Ходзька, то Здольны".

Ходзькі былі не толькі сучаснікамі А.Міцкевіча, а ў пэўнай меры спрычыніліся да жыцця і творчасці вялікага песняра.

**ХОДЗЬКА ЯН ЮЗЭФАВІЧ** (1777 - 1851) праз сваіх сыноў і Т.Зана быў далучаны да таямніц філарэтаў і філаматаў. Ян Ходзька напісаў 12 тамоў "Размаітых пісьмаў", дзе апісаў побыт і звычаі беларускай шляхты. Пры падрыхтоўцы 7-га выдання (1972 г.) паэмы А.Міцкевіча "Пан Тадэвуш", складальнік С. Пігонь 21 раз выкарыстаў матэрыял гэтых мемуараў Яна Ходзькі для каментарыяў тэксту паэмы. Сыны Яна Ходзькі былі знаёмы і супрацоўнічалі з А.Міцкевічам.



**Ян Ходзька**

**ХОДЗЬКА МІХАІЛ ЯНАВІЧ** (1808 - 1889) — перакладчык, паэт, матэматык, капітан, у час вучобы на філасофскім факультэце Віленскага ўніверсітэта быў членам таварыства філаматаў і філарэтаў. Прымаў удзел у паўстанні 1830 г. Як начальнік паўстанцкага Крывіцкага аддзела разам з братамі Станіславам і Феліксам удзельнічаў у штурме Вілейкі (14.04.1831). Ён цесна сябраваў з А.Міцкевічам, старанна дапамагаў яму ў фарміраванні "Святога легіёна" ў Італіі, удзельнічаў у шматлікіх бітвах гэтага легіёна. Выдаў успаміны "Адам Міцкевіч і Польскі легіён у Італіі". 1862г.



**Міхал Ходзька**

**ХОДЗЬКА АЛЯКСАНДР ЭДМУНД ЯНАВІЧ** (1804 - 1891) — арыенталіст, паэт, славіст, прафесар, сябар філарэтаў і прамяністых. У час вучобы ў Пецярбургу пазнаёміўся з А.Міцкевічам і стаў яго сябрам. Сярод сяброў таварыства былі такія асобы, што пазней сталі вядомымі на ўвесь свет: Ян Чачот, Ігнат Дамейка. Калі студэнцкія арганізацыі былі раскрыты, многіх членаў арыштавалі і зняволілі. Сярод іх быў Аляксандр Ходзька і Міцкевіч, якіх потым апраўдалі. Пасля дыпламатычнай работы ў Персіі Ходзька пасяліўся ў Парыжы, дзе атрымаў месца прафесара кафедры славянскіх моў і літаратур у Парыжскім універсітэце. Тут да яго некаторы час чытаў лекцыі А.Міцкевіч.



**Аляксандр Ходзька**

Аляксандр дапамагаў Міцкевічу выдаваць эміграцыйную газету "Трыбуна народаў", запісваў успаміны А.Міцкевіча і дапамагаў выдаваць іх. Калі А.Ходзька выдаў зборнік "ПАЭЗІЯ" (1829г.), некаторыя балады і песні якога заснаваны на беларускім фальклоры, А. Міцкевіч, пазнаёміўшыся са зборнікам вершаваных твораў, напісаў аўтару ліст з Жэневы: "Тваю "Паэзію" мы чыталі тут з вялікай асалодай ... Ты выбраў добра: усе вершы маюць вартасць, а многія цудоўныя, асабліва песні і балады". Ён назваў нашага земляка "майстрам беларускага жанру".

Быў сябрам філарэтаў і генерал-лейтэнант **ХОДЗЬКА ЮЗАФ ЯНАВІЧ** (1800 - 1881) псеўданім "Піцій". Ён стаў 101-ым у іх спіску, прымаў актыўны ўдзел у таварыстве, падрыхтаваў і прачытаў рэфераты "Аб сапраўднай мужнасці" і "Аб асновах сапраўднага патрыятызму".

**ХОДЗЬКА ІГНАТ АНТОНАВІЧ** (1794 - 1861) — пляменнік Яна Ходзькі, нарадзіўся ў Заблочыне, жыў у Дзевятні. Калі ён у 1829 г. напісаў аповесць "Прыгонны", то звярнуў на сябе ўвагу як пісьменнік, які раскрывае акрутнасць сістэмы прыгону. На гэту аповесць звярнуў увагу А. Міцкевіч. Пад уплывам мемуарна-апавядальных запісаў дзядзькі Яна Ходзькі і паэмы А.Міцкевіча "Пан Тадэвуш" Ігнат трапляе на сапраўдную літаратурную дарогу, праяўляе сваю індывідуальнасць. Ён піша ўспаміны пра сваё дзяцінства "Хатка майго дзядулі" (1836). Яго творы "Успаміны квестара", "Новыя ўспаміны квестара" ў сямі выпадках далі матэрыял для каментарыяў паэмы А.Міцкевіча "Пан Тадэвуш".



**Ігнат Ходзька**

22 кастрычніка 1824 г. праз гадзіну пасля атрымання загаду аб высылцы А.Міцкевіч прысвяціў нарачонай Ігната Ходзькі, якая потым стала яго жонкай, Людвіцы Мацкевіч верш "Незнаёмай далёкай", дзе называе яе любімай сябра, гэта дае падставу меркаваць, што А.Міцкевіч лічыў І.Ходзьку сваім сябрам.

**ХОДЗЬКА ЛЕАНАРД ЛЮДВІГАВІЧ** (Аборкі Маладзечанскага раёна) — гісторык, публіцыст, сябар таварыства філарэтаў, асабісты сакратар кампазітара М.Агінскага. Пры пасрэдніцтве Т.Зана, з якім вучыўся ў Маладзечне, пазнаёміўся з А.Міцкевічам. У 1828 г. Ходзька пры фінансавай дапамозе графіні К.Астроўскай выдаў збор паэзіі А. Міцкевіча. У лісце да А. Міцкевіча 3 траўня 1828 г. сцвярджаў, што галоўным імкненнем і мэтай жыцця сталася "асвяжаць мінулае і бараніць польскую сучаснасць перад светам". Першая яго работа "Гісторыя польскіх легіёнаў у Італіі" (1823г.) выклікала цікавасць у грамадскасці. З гэтай працы А.Міцкевіч пачэрпаў матэрыял пры апісанні дзеяння легіёнаў Дамброўскага ў паэме "Пан Тадэвуш".

Быў філарэтам і **ХОДЗЬКА ДАМІНІК ЦЭЗАРЫ.**

# ПЕРАКЛАДЫ З МІЦКЕВІЧА

Каб беларускага чытача далучыць да сусветнага прыгожага пісьменства народны паэт Беларусі М.Танк (в.Пількаўшчына) зрабіў 139 перакладаў вершаў паэтаў свету, у тым ліку перакладаў 11 вершаў А.Міцкевіча: "Амерыканскія стэпы", "Бура", "Выгляд гор са стэпаў Казлова", "Гара Кікеніс", "Фарыс", "Недбаю, якое праклящце", "Хор стральцоў", "Паліліся мае слёзы", "О, мне дажыць бы да гэтай уцехі", "Прэч з маіх воч", "Лілеі", урыўкі з паэмы "Пан Тадэвуш", "Дзяды".



Максім Танк

Ацэньваючы творчую значнасць А.Міцкевіча М. Танк пісаў: "Жыццё і творчая дзейнасць А.Міцкевіча непарыўна звязаны з жыццём беларускага і польскага народаў, іх думамі і пакутамі. У цёмныя гады ўдушша Міцкевіч, як гучны набат, клікаў людзей сваёй Бацькаўшчыны да вызваленчай барацьбы супраць расейскага самадзяржаўя, да ліквідацыі нацыянальнага прыгнёту.

Вялікі патрыёт і паэт, сын Навагрудскай зямлі, Адам Міцкевіч зразумеў, што вызваленне Польшчы цесна звязана з развіццём рэвалюцыйнага руху ў Расеі і еўрапейскіх краінах, што толькі сумесная барацьба супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту прынясе Радзіме свабоду і незалежнасць. Міцкевіч натхнёна заклікаў польскі і расейскі народ да брацкай дружбы.

Навагрудчына — зямля вялікай паэзіі Адама Міцкевіча. Бессмяротныя тэмы і вобразы роднага краю, увасобленыя ў чароўных баладах і паэмах увайшлі ў бессмяротную скарбонку сусветна вядомай паэзіі, якая хвалюе і цяпер сэрцы людзей".

М.Танк прысвяціў вялікаму паэту вершы "На Навагрудскай зямлі" і "Вадаспад А.Міцкевіча".

Знайшоў непаўторную прыгажосць у паэзіі А.Міцкевіча і другі наш зямляк Адам Гурыновіч (хутар Кавальскі Мядзельскага раёна).

Зачараваны апісаннем родных беларускіх краявідаў Міцкевічам у паэме " Конрад Валенрод", ён пераклаў цудоўныя ўрыўкі аб Віліі і Нёмане на беларускую мову.



**Адам Гурыновіч**

Перакладалі творы А. Міцкевіча на беларускую мову Астрэйка А., Аўрамчык М., Багдановіч І., Барадулін Р., Бітэль П., Балевіч А., Вялюгін А., Гаўрук Ю., Дзяргай С., Ельскі А., Зарэцкі А., Жычка Х., Караткевіч У., Калачынскі М., Кірыенка К., Колас Я., Купала Я., Корбан У., Крапіва К., Мархель У., Міклашэўскі Я., Панчанка П., Пястрак П., Русецкі А., Сіпакоў Я., Семяжон Я., Тарашкевіч Б., Тарас Н., Цітоў К..



**Язэп Семяжон**

Паэма А.Міцкевіча "Пан Тадэвуш" мае 44 пераклады на 25 моў свету, а калі далучыць асобныя фрагменты перакладаў у перыёдыцы, то гэта лічба перавышае 90-перакладаў, асобныя вершы паэта перакладзены на 76 моў свету.



**Браніслаў Тарашкевіч**

***Ян Драўніцкі,***
***в. Камарова***
***Мядзельскі раён***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 17. 08. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 1889.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.